ПУЛЬС

## Мінскія саўгасы

Мінскі гарвыканкам, выконваючы ўказ Аляксандра Лукашэнкі "Аб некаторых мерах па фінансавым аздараўленні сельскагаспадарчых арганізацый і прыцягненні інвестыцый у сельскагаспадарчую вытворчасць", бязвыплатна прыняў у камунальную ўласнасць шэсць стратных прыватных і раённых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Мінскай вобласці з мэтай іх фінансавага аздараўлення і прыцягнення інвестыцый у сельгасвытворчасць.

Як гаворыцца ў рашэнні гарвыканкама, унітарнае прадпрыемства "Мінскметрабуд" возьме шэфства над саўгасам "Рудзенскі", Гарадскі малочны завод № 3 — над гаспадаркай "Дрычынскі" (Пухавіцкі раён), Завод эфектыўных прамысловых канструкцый — над гаспадаркай "Новыя Зялёнкі" (Чэрвенскі раён), Камароўскі рынак — над гаспадаркай "Узлянка" (Мядзельскі раён), Мінскі мясакамбінат — над гаспадаркай "Данілавічы" (Дзяржынскі раён), прадпрыемства "Мінсктранс" — над гаспадаркай "Вялікаполле" (Чэрвенскі раён).

**Лавінія АРЭШКА.**

## Вярталіся з вяселля

Ахвярамі п'янага вадзіцеля сталі ў Брэсце чацвёра пешаходаў, якія вярталіся з вяселля. Двое з іх загінулі.

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося ў 3 гадзіны ночы на вуліцы "17 верасня" абласнога цэнтра. У гэты час 22-гадовы непрацуючы жыхар Брэста, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, на аўтамабілі "Датсун-Станза", што належаў бацьку, выехаў на тратуар і ўчыніў наезд на пешаходаў, якія вярталіся з вяселля.

У выніку ДТЗ загінулі невядомы мужчына, а таксама жанчына 1971 года нараджэння. Яе муж 1969 года нараджэння і яшчэ адна жанчына 1977 года нараджэння ў цяжкім стане дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне гарадской бальніцы. Па дадзеным факце заведзена крымінальная справа і праводзіцца следства.

Са студзеня па ліпень на Брэстчыне зарэгістравана 524 аварыі, у якіх загінулі 125 чалавек і 555 атрымалі розныя раненні. У 60 ДТЗ былі вінаватыя п'яныя вадзіцелі.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Катлы «Дамавік»

ААТ "Мінскі завод ацяпляльнага абсталявання" асвоіў выпуск энерганезалежнага катла "Дамавік" магутнасцю ад 15 кВт да 70 кВт. Бытавы газавы кацёл "Дамавік" не патрабуе выкарыстання насосу і можа працаваць ва ўмовах поўнай адсутнасці электрычнасці. Магутнасць катла дазваляе ацяпляць памяшканні плошчай ад 150 да 800 кв. метраў. Каэфіцыент карыснага дзеяння складае 93%.

Ужо выпушчана першая прамысловая партыя ў колькасці 20 катлоў. Да канца года плануецца вырабіць яшчэ 200 катлоў. У залежнасці ад попыту прадпрыемства можа вырабляць ад 2 да 4 тысяч энерганезалежных катлоў у год.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Працуюць са стратамі

68 прадпрыемстваў Полацка і Наваполацка працавалі са стратамі па выніках пяці месяцаў гэтага года. Паводле звестак афіцыйнай статыстыкі, агульная сума выдаткаў склала 9,5 мільярда рублёў. У Наваполацку стратнымі аказаліся 37 прадпрыемстваў, або 43,5 працэнта ад агульнай колькасці, у Полацку — 31 (39,2 працэнта).

Сур'ёзнай праблемай застаюцца даўгі. Так, на першы дзень лета дэбіторская запазычанасць наваполацкіх прадпрыемстваў і арганізацый перавысіла 300 мільярдаў рублёў.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Жніво і самагонаварэнне

Падчас двухдзённага рэйду, праведзенага ў Брэсцкай вобласці ў рамках другога этапа аперацыі "Аграрнік", 5 вадзіцеляў былі прыцягнуты да адказнасці за кіраванне транспартам у нецвярозым стане, выяўлена 160 чалавек, якія знаходзіліся на працоўным месцы ў стане алкагольнага ап'янення, затрыманы 30 дробных раскрадальнікаў сельгасмаёмасці. Пра гэта паведаміў БелаПАН кіраўнік прэс-службы УУС Брэсцкага аблвыканкама Віктар Васілеўскі.

З пачатку жніва на тэрыторыі Брэсцкай вобласці супрацоўнікамі міліцыі зафіксаваны 62 выпадкі самагонаварэння.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Працоўны жнівень валанцёраў

Жыхары Віцебска, якія прывыклі пасля працы і ў выхадныя дні адпачываць у гарадскім лесапарку "Мазурына", вельмі здзіўлены з'яўленнем у зоне адпачынку вялікай колькасці немясцовых дзяўчат і хлопцаў. Аказваецца, у парку пачаў дзейнічаць валанцёрскі працоўна-адукацыйны лагер "Віцязь". Маладыя людзі ва ўзросце 14—16 год з Віцебскай, Мінскай ды іншых абласцей Беларусі на працягу жніўня зоймуцца добраўпарадкаваннем прыроднага парку: будуць убіраць смецце, валежнік, сухі і гнілы хмызняк, прыводзіць у парадак прагулачныя дарожкі і акаляючую тэрыторыю. Адначасова з працоўнай праграмай для падлеткаў арганізаваны спартыўныя ды інтэлектуальныя гульні, конкурсы, дыспуты, экскурсіі, розныя іншыя культурна-забаўляльныя і адукацыйныя мерапрыемствы.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Каменяпад пачынаецца з двух-трох каменьчыкаў...

Кажуць, што акцыя, якая была прымеркавана дэпутатамі парламента Фраловым, Скрабцом, Парфяновічам да 10-годдзя прэзідэнцтва Лукашэнкі, правалілася. Але ж чаму тады так хваравіта адрэагавала на мерапрыемства ўлада? Як вядома, дзесяткі дэманстрантаў былі жорстка збітыя АМАПам, шмат хто з іх панёс адміністратыўныя пакаранні. З краіны выслалі карэспандэнта РТР Дзмітрыя Пятрова, які асвятляў падзеі 21 ліпеня і ў рэпартажы быццам завысіў колькасць удзельнікаў.

Асабліва стараўся знізіць значэнне і маштаб акцыі Аляксандр Лукашэнка. Літаральна на наступны дзень на нарадзе з кіраўнікамі замежных установ Беларусі ён, не шкадуючы эпітэтаў, маляваў "правал" апазіцыйнага мерапрыемства. Адчувалася, яго зачапіла за жывое ўжо сама задумка "рэспубліканцаў" прынародна сказаць яму: час сыходзіць. "Правадыр" нібыта хацеў крыкнуць у адказ: грамадзяне, за дэмакратычнай апазіцыяй ісці не варта, яна бездапаможная, не здольная да арганізаваных дзеянняў, толькі я магу паказаць вам правільны шлях.

Па яго словах, арганізатары акцыі "замовілі аўтобусы ў розных гарадах, паабяцалі, што заплацяць людзям. Людзі прыйшлі да аўтобусаў і кажуць: маўляў, давайце грошы, камандзіровачныя, вы ж у валюце абяцалі, тады мы паедзем у Мінск на мітынг. А ім сказалі, што грошы аддадуць у Мінску Фралоў і іншыя. Тады людзі развярнуліся і сышлі".

У гэтай сувязі асобна быў названы горад Бяроза. Там мясцовыя арганізатары быццам бы замовілі транспарт, але не аплацілі транспартныя выдаткі, таму вадзіцелі адмовіліся везці людзей з Бярозаўскага раёна ў Мінск. У выніку тыя не патрапілі на акцыю.

Аднак ці можна верыць такім сцвярджэнням? Пасля эскапад, якія прагучалі з вуснаў першай асобы, у рэдакцыю паступіў шэраг тэлефонных званкоў ад арганізатараў і ўдзельнікаў бярозаўскай дэлегацыі. Усе яны як адзін абураны словамі Аляксандра Лукашэнкі.

Першым на домыслы "правадыра" адрэагаваў непасрэдны арганізатар паездкі ў Мінск дэлегацыі з Бярозаўскага раёна **Яўген АКАРОНКА,** старшыня Бярозаўскай арганізацыі БСДП (НГ).

**— Заява Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што арганізатары паездкі з вашага раёна не аплацілі транспартнікам выдаткі, адпавядае рэчаіснасці?**

— Роўна настолькі, наколькі адпавядае рэчаіснасці сцвярджэнне аб тым, што спадар Лукашэнка ліберал і дэмакрат.

**— Хто замаўляў транспарт?**

— Асабіста я звяртаўся ў прыватную фірму і наймаў аўтобус (па вядомых прычынах прозвішча ўласніка называць не буду). Грашовыя разлікі былі зроблены своечасова, ніякіх пытанняў на гэты конт не ўзнікала.

**— Як вы збіраліся і ехалі да сталіцы?**

— Прыблізна а другой гадзіне дня 21 ліпеня ў Бярозу прыбыў аўтобус. Як і планавалася, ён прыняў на борт чатырох чалавек і паехаў у Белаазёрск, дзе ў яго села асноўная група раённай дэлегацыі (31 чалавек). З Белаазёрска мы рушылі ў сталіцу. У Мінск мы прыбылі прыкладна а 18-й гадзіне і адразу накіраваліся на плошчу Бангалор. Там мы мітынгавалі на працягу трох гадзін. Таму словы спадара Лукашэнкі — няпраўда. Або яго ўвялі ў зман спецслужбы, або ён свядома запусціў дэзінфармацыю.

Наступны сведка — **Аляксандр КУЗЬМІН,** жыхар горада Белаазерска.

**— Аляксандр, ты ездзіў 21 ліпеня на мітынг у Мінск?**

— Так. І вельмі застаўся задаволены, бо меў магчымасць асабістым удзелам падтрымаць акцыю пратэсту супраць зацягнуўшагася праўлення Аляксандра Лукашэнкі.

**— З кім і чым ты ездзіў?**

— У складзе раённай дэлегацыі аўтобусам, які наймаў Яўген Акаронка. Я яму ў гэтым спрыяў. З аплатай аўтобуса недарэчнасцяў не ўзнікала. Рыгоравіч са сваёй дэзай, скажу шчыра, тут моцна заляцеў.

**— А грошы ўдзельнікам паездкі Фралоў альбо хтосьці з яго людзей плаціў, як сцвярджае Лукашэнка?**

— Каб Лукашэнку на грошы, якія мы атрымалі ад Фралова, усё астатняе жыццё існаваць. На мітынг мы паехалі не за грашыма, а каб паспрыяць дэмакратыі ў Беларусі.

Гісторыю з "няўдзелам" Бярозаўскай дэлегацыі ў акцыі 21 ліпеня патлумачыла **Наталля АКАРОНКА,** дэпутат гарадскога Савета дэпутатаў горада Белаазёрска.

**— Наталля, складанасці з паездкай у сталіцу былі?**

— Калі вы маеце на ўвазе тое, што сачыніў Аляксандр Лукашэнка, то не было. Арганізатары, я гэта добра ведаю, разлічыліся цалкам і своечасова. Таму калі мы пачулі 22 ліпеня з вуснаў кіраўніка дзяржавы непрыхаваную хлусню, то былі вельмі абураны. Дэлегацыя Бярозаўскага раёна складалася з 35 чалавек (я была сярод іх), і нікому нават у галаву не прыходзіла адмовіцца ад паездкі. Усе засталіся задаволены. Арганізатары спрацавалі на выдатна. А Фралова, Скрабца, Парфяновіча я б узнагародзіла ордэнам за асабістую мужнасць і грамадзянскую самаахвярнасць.

**— Скажыце, навошта ў дадзеным выпадку Аляксандру Лукашэнку спатрэбілася ўводзіць у зман грамадскасць?**

— Ён па-ранейшаму лічыць сябе "ўсенароднаабраным" і не хоча прызнаваць, што вялікая колькасць людзей такім яго не прызнае. Сёння яго падтрымка з боку насельніцтва ўпала на трэць. Яму любым шляхам трэба пераканаць свет, што ён не толькі "ўсенароднаабраны", але і "ўсенародна любімы". Таму ён рабіў усё, каб выставіць апанентаў звар'яцелымі адзіночкамі, абвінаваціць іх у фінансавай несумленнасці.

Апрача гэтага, у Белаазёрску (другім па памеры горадзе ў Бярозаўскім раёне) 2 сакавіка на мясцовых выбарах перамагла дэмакратычная большасць. Лукашэнку, відаць, дадзены факт вельмі злуе. Таму ён скарыстаўся выпадкам, каб прынізіць палітычныя магчымасці і арганізацыйны патэнцыял нашых раённых дэмакратаў.

Тлумачэнні дае **Тамара ШЧАПЁТКІНА** (жыхарка горада Бяроза), карэспандэнт міжрэгіянальнай газеты "Для вас".

**— На мітынг з нагоды дзесяцігоддзя праўлення Аляксандра Лукашэнкі, які адбыўся 21 ліпеня ў Мінску, прыязджалі людзі з розных рэгіёнаў краіны, у тым ліку з Бярозаўскага раёна. Тым не менш кіраўнік краіны паставіў гэты факт пад сумненне. На яго думку, "так званая "буйная" акцыя памерам усяго ў 150—170 чалавек — гэта чарговая дэманстрацыя бязмозгласці у нашай апазіцыі". Што Вы скажаце на гэта?**

— Мне да хлусні нашага "правадыра" не прывыкаць. Ён ніколі пераканаўча не адказаў ні на адно пастаўленае пытанне. Па-першае, я асабіста ўдзельнічала ў мітынгу на плошчы Бангалор, усё сфатаграфавала ў розных ракурсах. Колькасць удзельнікаў, калі палічыць па маіх здымках, складае болей за тры тысячы. Я ў гэтым пераканана. Тым не менш карэспандэнта РТР Пятрова за падобнае сцвярджэнне выслалі з краіны. Дзікунства нейкае!

Па-другое, у Мінск я дабіралася ў складзе дэлегацыі ад Бярозаўскага раёна. Арганізатары размясцілі нас у вялікім шыкоўным аўтобусе (здаецца, маркі "Мерседэс"). У горадзе Бяроза нас села чацвёра, асноўная частка дэлегацыі далучылася ў горадзе Белаазёрску. У сталіцу нас прыехала 35 чалавек.

**— Як Вы ставіцеся да заявы аб тым, што арганізатары вашай паездкі не заплацілі грошы ўладальнікам аўтатранспарту, таму паездка, маўляў, правалілася?**

— Паездка адбылася. Больш за тое, была вельмі ўдалай. Яна пачалася прыкладна ў 14 гадзін. Дамоў вярнуліся за поўнач. За гэты час аніякія пытанні з аплатай транспарту не паўставалі. Вадзіцель аўтобуса паводзіў сябе вельмі ветліва і добразычліва. Калі б з ім не разлічыліся, ён бы нават з месца не зрушыў. Папярэджваючы ваша пытанне, скажу: разлікі з удзельнікамі дэлегацыі таксама ні разу не трапляліі ў поле зроку. Людзьмі рухала грамадзянскае сумленне і пачуццё адказнасці за лёс дэмакратыі ў Беларусі.

**— Спадарыня Шчапёткіна, чаму Аляксандру Лукашэнку спатрэбілася пераварочваць сітуацыю, гаварыць аб тым, што быццам бы бярозаўскія апазіцыянеры не прыехалі, хаця на самай справе яны былі на плошчы, прычым даволі прадстаўнічай камандай?**

— Толькі дзеля таго, каб пераканаць грамадскасць у тым, што на Бангалор сабралася нейкіх 170 "дурняў", а не прадстаўнікі розных рэгіёнаў і сацыяльных груп краіны. Каб у людзей не склалася ўражанне, што акцыя — сведчанне народнай незадаволенасці яго кіраўніцтвам.

**— Наўздагон сёння шмат хто гаворыць: акцыя магла б быць больш прадстаўнічай. Можа, на самай справе Лукашэнка меў пэўную рацыю, калі заўважыў, што час, абраны для яе, не самы лепшы, што нават з яго адміністратыўным рэсурсам выцягнуць людзей на вуліцу ў разгар летняга сезона праблематычна? Можа, трэба было ладзіць мерапрыемства восенню, калі людзі вяртаюцца з лецішчаў, вёска збірае ўраджай, калі палітычнае жыццё і свядомасць становяцца больш інтэнсіўнымі?**

— Што зроблена, тое зроблена. Асабіста я лічу, што зроблена правільна. Дзесяцігоддзе самаўладдзя Лукашэнкі — вельмі зручная палітычная падзея, каб распачаць рабіць нешта больш істотнае ў змаганні за дэмакратычныя каштоўнасці, каб ад слоў перайсці да справы. Таму папракаць Фралова і яго таварышаў не варта. Яны не займаліся балбатнёй, не назіралі збоку, як некаторыя нашы дэмакраты, а зрабілі канкрэтную палітычную справу. Зразумела, калі кіраваццa колькаснымі паказчыкамі, то акцыя магла б прайсці больш масава. Калі ж падыходзіць да яе з якаснага боку, поспех відавочны. Гэтыя тры палітыкі на чале з Фраловым — малайцы, яны сапраўдныя мужчыны. На маю думку, яны належаць да той часткі беларускай апазіцыі, якая (калі кіравацца нядаўнім вызначэннем "Народнай волі") не хварэе на палітычную імпатэнцыю. Бо сваімі рашучымі палітычнымі дзеяннямі яны, цалкам магчыма, далі штуршок палітычнаму абуджэнню беларускага грамадства ад летаргічнага сну. Зараз гэта не прыкметна, а пройдзе нейкі час, і мы ўбачым нараджэнне, уздым новай (больш дзеяздольнай) хвалі барацьбы з беларускай дыктатурай. Тры дэпутаты дзейнічаюць абсалютна шчыра. Не зарабляюць палітычны капітал, як некаторыя, што круціліся каля іх падчас галадоўкі і падрыхтоўкі да 21 ліпеня, не чакаюць у засадзе, а лезуць на амбразуру. Нашай палітычнай апазіцыі такіх герояў нестае. Я ўпэўнена: менавіта з такімі палітыкамі мы пераможам.

Сітуацыю каменціруе **Ірына ЯКАЎЛЕВА,** сацыёлаг, старшыня Мінскага аддзялення ГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт".

**— Вы чулі выказванні Аляксандра Лукашэнкі адносна апазіцыйнай акцыі 21 ліпеня, аб тым, як "праваліліся" бярозаўскія арганізатары паездкі на мітынг у Мінск?**

— Не толькі чула, але і аналізавала. Выказванні некарэктныя, не адпавядаюць узроўню меркаванняў, якога павінен прытрымлівацца кіраўнік краіны. З псіхалагічнага пункта гледжання гэтыя выказванні — не лепшае сведчанне інтэлектуальнай глыбіні іх аўтара. Што тычыцца Бярозы, то людзей з гэтага раёна я асабіста суправаджала у аўтобусе ад Нямігі да плошчы Бангалор. Бярозаўская дэлегацыя выглядала ўнушальна. А само мерапрыемства было карысным. Дэпутаты паставілі адзнаку сваёй дзейнасці. Абмеркавалі вынікі дзесяцігадовай дзейнасці кіраўніка краіны. У чым тут праблема? Каб Лукашэнку застацца пры ўладзе, трэба ладзіць рэферэндум аб змяненні адпаведнай нормы Канстытуцыі. Вось тут сацыялогію абмінуць вельмі цяжка. Усе больш ці менш незалежныя апытанні грамадскай думкі сведчаць аб тым, што двое з трох жыхароў краіны супраць трэцяга тэрміну Аляксандра Рыгоравіча. Галоўным сэнсам апазіцыйнай акцыі якраз і было імкненне дэмакратычных колаў засярodзіць увагу беларусаў на гэтай вельмі істотнай акалічнасці. Інакш кажучы, Фралоў і яго каллегі абсалютна карэктна сфармулявалі і публічна паставілі пытанне: ці дастаткова эфектыўна мы жылі прайшоўшыя дзесяць год, каб пагаджацца з імкненнем Лукашэнкі абрацца на трэці прэзідэнцкі тэрмін?

**— На Вашу думку, гэтая акцыя ўдалася?**

— Калі разглядаць яе як рэпетыцыю будучых змаганняў дэмакратаў, яна была карыснай. Апазіцыя яшчэ раз убачыла свае хібы, палітычныя магчымасці і, на жаль, не вельмі высокую грамадскую актыўнасць беларусаў. Зноў жа павінна звярнуць увагу на тое, што з сацыялагічнага пункта гледжання цяжка меркаваць аб настроях у грамадстве ўвогуле на падставе колькасці людзей, якія прысутнічалі на мітынгу. Мітынг на плошчы Бангалор — гэта, як кажуць сацыёлагі, нерэпрэзентатыўная выбарка. Таму не трэба кідацца ў крайнасць з-за таго, што на акцыю народу прыйшло меней, чым чакалі. Каменяпад пачынаецца з двух-трох каменьчыкаў...

**Вячаслаў ОРГІШ.**
**Фота photo.bymedia.net**

*Тамара Шчапёткіна (горад Бяроза): Фралоў і яго паплечнікі далі штуршок палітычнаму абуджэнню беларускага грамадства...*

# Как подвигнуть белорусов к переменам?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

**Таблица 1. Важнейшие социально-политические установки белорусов в зависимости от пяти базовых факторов, %***

| ФАКТОРЫ | СОЦИАЛЬНО-ПОЛИТИЧЕСКИЕ УСТАНОВКИ | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Предпочитают для Беларуси экономику: | | В ближайшие годы ситуация в стране: | | На выборах в 2001 г. голосовали за: | | Если бы знали успешного конкурента А.Лукашенко, проголосовали бы за: | | На референдуме выбрали бы: | |
| | рыночную | плановую | улучшится | ухудшится | А.Лукашенко | других кандидатов | такого кандидата | А.Лукашенко | объединение с РФ | вступление в ЕС |
| **Фактор I** | | | | | | | | | | |
| **Интернет** | | | | | | | | | | |
| Пользуются | **63,2** | 6,5 | 13,1 | **36,0** | 15,0 | **35,9** | **80,2** | 3,2 | 26,6 | **65,4** |
| Нет | 39,8 | 16,3 | **23,8** | 19,0 | **49,3** | 15,9 | 51,4 | 24,2 | **50,2** | 33,7 |
| **Компьютер** | | | | | | | | | | |
| Пользуются | **58,5** | 10,2 | 13,2 | **32,2** | 20,0 | **34,4** | **74,4** | 5,9 | 30,5 | **58,0** |
| Нет | 38,5 | 17,0 | **24,8** | 18,4 | **53,0** | 13,5 | 50,9 | 26,1 | **53,7** | 30,4 |
| **Мобильный телефон** | | | | | | | | | | |
| Есть | **63,6** | 8,1 | 13,6 | **30,4** | 15,9 | **31,2** | **75,2** | 6,0 | 28,9 | **61,2** |
| Нет | 37,1 | 17,7 | **24,3** | 18,8 | **54,7** | 14,4 | 50,5 | 26,4 | **53,7** | 30,0 |
| **Иностранные языки** | | | | | | | | | | |
| Владеют | **54,3** | 13,1 | 16,5 | **27,3** | 29,4 | 25,1 | **73,9** | 9,6 | 34,2 | **55,4** |
| Не владеют | 40,0 | 16,1 | **23,7** | 19,6 | **50,6** | 16,2 | 50,5 | 25,5 | **52,3** | 31,3 |
| **Фактор II** | | | | | | | | | | |
| **Образование** | | | | | | | | | | |
| Неполное среднее | 28,2 | 23,9 | **33,2** | 12,2 | **68,3** | 8,6 | 36,1 | **43,2** | **68,1** | 18,2 |
| Высшее | **63,0** | 10,0 | 14,4 | **35,6** | 30,9 | **32,9** | **72,4** | 7,2 | 36,8 | **52,3** |
| **Статус** | | | | | | | | | | |
| Работник на частном предприятии | **54,8** | 13,2 | 12,9 | **30,7** | 21,6 | **30,0** | **69,6** | 8,9 | 36,5 | **52,6** |
| Пенсионер | 23,6 | 23,1 | **35,2** | 9,6 | **80,1** | 4,7 | 30,2 | **45,2** | **68,8** | 10,3 |
| **Фактор III** | | | | | | | | | | |
| **Автомобиль** | | | | | | | | | | |
| Есть | **56,2** | 12,6 | 16,1 | **28,4** | 31,7 | 29,1 | **68,6** | 11,3 | 36,1 | **53,0** |
| Нет | 39,0 | 16,1 | **24,2** | 19,1 | **49,8** | 14,8 | 52,2 | 25,1 | **52,1** | 31,7 |
| **Доходы** | | | | | | | | | | |
| До 125 тыс. руб. | 33,8 | 18,5 | 21,3 | 19,5 | **51,6** | 11,5 | 49,2 | 27,6 | **48,4** | 32,9 |
| От 200 до 400 тыс. | **57,8** | 8,6 | 24,0 | 23,7 | 33,0 | 27,8 | **65,4** | 14,6 | 39,8 | **50,0** |
| **Фактор IV** | | | | | | | | | | |
| **Секс важен** | | | | | | | | | | |
| Да | **56,0** | 10,2 | 11,4 | **34,9** | 21,1 | **28,9** | **67,3** | 9,1 | 28,3 | **54,2** |
| Нет | 42,0 | 15,9 | **23,2** | 19,9 | **48,2** | 17,2 | 55,1 | 23,0 | **50,2** | 35,5 |
| **Алкоголь** | | | | | | | | | | |
| Употребляют | **51,3** | 12,5 | 19,2 | **25,3** | 37,4 | 23,7 | **64,0** | 16,1 | 46,9 | 42,9 |
| Не употребляют | 37,4 | 17,9 | **24,3** | 18,3 | **52,4** | 14,2 | 50,3 | 26,4 | **48,6** | 33,1 |
| **Фактор V** | | | | | | | | | | |
| **Возраст** | | | | | | | | | | |
| 20–24 года | **53,4** | 7,5 | 11,5 | **27,3** | 21,4 | **20,0** | **78,3** | 7,0 | 24,1 | **64,6** |
| Старше 50 лет | 38,8 | 17,4 | **26,8** | 16,4 | **54,7** | 18,8 | 51,7 | 27,0 | **65,0** | 25,1 |
| **Место жительства** | | | | | | | | | | |
| Минск | **54,8** | 9,5 | 20,3 | **24,0** | 30,4 | **42,7** | **56,9** | 16,8 | 37,6 | **53,2** |
| Село | 38,2 | 15,8 | **22,2** | 20,7 | **55,4** | 12,2 | 43,4 | 31,9 | **52,2** | 29,0 |
| **Пол** | | | | | | | | | | |
| Мужской | **48,9** | 13,8 | 21,3 | **23,2** | 38,5 | 20,7 | **61,9** | 16,9 | 43,5 | **43,2** |
| Женский | 39,2 | 16,6 | **22,3** | 20,2 | **50,9** | 16,6 | 51,8 | 25,4 | **51,2** | 32,8 |

** Таблица читается по горизонтали. Например, из тех респондентов, которые пользуются Интернетом, 63,2% предпочитают для Беларуси рыночную экономику, а 6,5% – плановую. Среди непользователей это соотношение составляет 39,8% против 16,3%. Среди владельцев автомобилей 36,1% выбрали бы объединение Беларуси с Россией, а 53,0% – вступление в ЕС. Среди невладельцев это соотношение составляет 52,1% против 31,7%. Доминирующие типы в каждой группе выделены жирным шрифтом.*

Иерархия факторов отражена в самой структуре таблицы. Самый важный фактор — условно назовем его "информационной свободой" имеет I ранг и располагается вверху. В этой группе самым важным является пользование Интернетом, затем — компьютером и мобильным телефоном, а также владение иностранными языками. Второй по значимости фактор — назовем его условно "изменяемыми социально-демографическими характеристиками" — имеет II ранг и располагается чуть пониже. В этой группе самым важным является образование, а затем социальный статус. Третий по значимости фактор — назовем его условно — "материальным благосостоянием" имеет III ранг. В данной группе более важным является владение автомобилем, а затем доходы (на члена семьи в месяц). Следующий по значимости фактор — назовем его условно — "бытовой свободой" имеет IV ранг. В этой группе на первом месте находится признание секса как самого важного вида деятельности в семье, а на втором — употребление алкогольных напитков. Наконец, последний по значимости фактор — назовем его условно "неизменяемыми социально-демографическими характеристиками" располагается внизу и имеет V ранг. В данной группе самым важным является возраст, а затем место жительства и пол. Определение "изменяемые и неизменяемые социально-демографические характеристики" используется в том смысле, что могут ли они поддаваться воздействию сил, заинтересованных в переменах или нет. Ясно, что демократические силы могут способствовать повышению образования белорусов или их вовлечению в негосударственный сектор, а изменять пол, возраст или даже место жительства — нет.

Судя по действиям властей, они осознают (или, по крайней мере, "чуют нутром") некоторые из этих тенденций. Именно поэтому они постоянно прессингуют частных предпринимателей, сдерживают рост доходов большинства граждан, стремятся установить тотальный контроль над системой образования и информации, перманентно "борются за дисциплину" на производстве и в быту (включая борьбу с пьянством и порнографией). В то же время другие действия оказываются совершенно неадекватными их важнейшей цели — сохранения и укрепления своей власти. Например, проект белорусской "Силиконовой долины", ставший настоящим "хитом" последнего времени, основывается на идее использования новейших информационных и коммуникационных технологий для укрепления власти. Но, как показывают наши исследования и опыт многих стран, отделить форму от содержания этих технологий чрезвычайно сложно — их массовое использование неизбежно расширяет информационную свободу и динамизм граждан и становится мощным фактором демократических перемен, победы глобализма над фундаментализмом. Поскольку на белорусском политическом олимпе есть профессионалы высокого класса, можно с высокой степенью вероятности предсказать, что этот амбициозный проект при их власти никогда не будет реализован: они не станут рубить сук, на котором сидят.

Однако если власти хоть както осознают или "чуют" потенциал этих факторов и стараются их либо заблокировать, либо использовать в своих целях, демократические силы, в том числе и оппозиционные партии, либо реагируют на них довольно вяло, либо вообще не принимают в расчет. Так, попытки властей усилить контроль над использованием Интернета и мобильных телефонов в течение последнего года вызывали протесты скорее среди весьма умеренных депутатов парламента, чем среди радикальной оппозиции. Лишь небольшая часть оппозиции публично среагировала на закрытие Белорусского национального гуманитарного лицея и Европейского гуманитарного университета, хотя именно эти структуры готовили будущую элиту для демократических перемен. Овладение иностранными языками в ситуации, когда большинство белорусов не говорит по-белорусски, мягко говоря, также не является приоритетом для большинства демократов. Развитие частного предпринимательства декларируется в программах почти всех демократических партий, но реальную поддержку периодическим забастовкам белорусских "челноков" оказывают лишь некоторые лидеры оппозиции. Какими бы объективными или субъективными причинами ни объяснялась такая ситуация, разрыв между меньшинством, которое уже сегодня борется за перемены, и большинством, которое, в принципе, готово поддержать эти перемены, но не готово присоединиться к этому меньшинству, остается по-прежнему слишком большим.

Анализ результатов наших исследований убедительно показывает, что воздействие активного меньшинства на выжидающее большинство должно стать многопрофильным и гибким, нацеленным на "точки роста" свободы и динамизма, которые существуют в реальности белорусского социума, а не в "демократическом воображении". Конечно, представленный анализ не дает исчерпывающего ответа на поставленный в заголовке вопрос. Он лишь показывает новые, мало используемые возможности. Ясно одно: если до следующих президентских выборов разрыв между "кинетической" и "потенциальной" энергией перемен не будет преодолен, Беларусь, возможно, так и останется самой загадочной страной Европы, вот только интересоваться этой загадкой уже никто не будет.

**НИСЭПИ.**

## Более чем в 60 стран мира

*Производственное объединение "Беларуськалий" в январе-июне 2004 года увеличило экспорт продукции на 29,7% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года . Объем валютной выручки увеличился на 28,5% и составил свыше 300 млн долларов. Об этом сообщили "Интерфаксу" в объединении.*

Калийные удобрения экспортируются более чем в 60 стран мира. При этом в страны дальнего зарубежья в январе-июне текущего года экспортировано свыше 90% реализованной продукции. На предприятии отметили, что в текущем году планируется экспортировать свыше 3 млн.т калийных удобрений.

"Беларуськалий" является крупнейшим производителем и экспортером калийных удобрений в мире, ему принадлежит 16% мировых производственных мощностей, 13,7% мирового экспорта калийных удобрений. Беларусь владеет 9,1% общих и подтвержденных запасов солей в мире. Предприятие функционирует с 1962 года на базе Старобинского месторождения калийных солей, открытого в 1949 году.

## Этажи для авто

*Многоуровневые стоянки для автомобилей если и не растут в белорусской столице как грибы после дождя, то все чаще в последнее время вписываются в городской силуэт.*

Вскоре появятся еще две — в центре мегаполиса, на улице Мясникова (вблизи железнодорожного вокзала, который сам недавно был новостройкой) и на северной столичной окраине — на улице Мирошниченко, что в микрорайоне "Зеленый Луг". До 1 сентября текущего года будут проведены конкурсы на право проектирования и строительства этих объектов. Соответствующее распоряжение издал Минский горисполком.

**Агентство "Минск-Новости".**

## Колькі каштуе кватэра?

На сёння кошт тыпавой аднапакаёвай кватэры ў панельным дзевяціпавярховым доме Мінска складае 22—23 тысячы долараў, двухпакаёвай — 28—29 тысяч, трохпакаёвай — 33—34 тыс. долараў. Як паведаміў старшыня савета грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя нерухомасці" Мікалай Прасталупаў, гэтыя сумы прыкладна на 4—5 тысяч долараў звыш аналагічных паказчыкаў на пачатак года.

**Лавінія АРЭШКА.**

